


# Грамадзянскі ФОРУМ

The bulletin is made up on the equipment given by US Information Agency (USIA) **№16 (22) 16 – 31 августа, 2000 года**

# Байкот!

## Стратэгія дзеянняў аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі падчас восеньскай палітычнай кампаніі, стаўленне да выбараў у палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка, бліжэйшыя буйныя масавыя акцыі – пра гэта ішла гутарка на прэс-канферэнцыі, што прайшла 15 жніўня ў штаб-кватэры партыі БНФ.



Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька выклаў распрацаваны кіраўніцтвам апазіцыі план дзеянняў на восень. Палітычная восень-2000 — вельмі важны, але толькі сегмент агульнай "стратэгіі перамогі". Па словах кіраўніка АГП, аб'яднаная апазіцыя абвяшчае актыўны байкот восеньскай палітычнай кампаніі. А.Лябедзька падкрэсліў, што актыўны байкот – гэта не толькі адмова людзей ісці на выбарчыя ўчасткі ў "дзень падману" 15 кастрычніка. У першую чаргу неабходна "не даць Лукашэнку перахапіць палітычную ініцыятыву, не даць узмацніць свае пазіцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў". Уся кампанія будзе праходзіць у падтрымку адзінага легітымнага заканадаўчага органа — Вярхоўнага савета — і супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі.

Кампанія таксама павінна служыць прыходу большай колькасці людзей у структуры дэмакратычнай апазіцыі і распрацоўцы плана абароны гэтых людзей падчас удзелу ў масавых акцыях.

З першага верасня пачнецца актыўны збор подпісаў за чатыры ўмовы, прапанаваныя АБСЕ і неабходныя для правядзення дэмакратычных выбараў. Плануецца шэраг буйных масавых акцыяў.

1 кастрычніка па вуліцах Мінска пройдзе "Марш Свабоды-3", а 8 кастрычніка адбудуцца вулічныя акцыі ў рэгіёнах пад агульнай назвай "Выбарам – так! Фарсу – не!" Пакуль што не прынятае канчатковае рашэнне наконт даты 14 кастрычніка — ці будзе якая акцыя напярэдадні выбараў у палату. У лістападзе пройдуць акцыі супраць збяднення людзей. Наймацней акцыя "актыўны байкот" будзе праходзіць у 22 гарадах Беларусі, дзе насельніцтва больш за 50 тысяч чалавек.

У выступах астатніх палітыкаў прагучала часам вельмі жорсткая крытыка тых прадстаўнікоў дэмрухаў, што пайшлі на выбары. Валянціна Палевікова (партыя "Надзея"): "...у спісе балатуемых у палату няма ніводнага паважаемага намі чалавека...". Павел Данэйка (АГП): "...яны самі выкінулі сябе за межы дэмакратычнай апазіцыі... ды што гэтыя 40—60 чалавек, калі ў дэмпартыях у наяўнасці не менш за пятнаццаць тысяч чалавек!" Крытыкавалі Міхаіла Чыгіра і Міколу Статкевіча, які таксама ўжо зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу па вылучэнні ў дэпутаты. Але напрыканцы была выказаная ўпэўненасць у тым, што "...гэтыя людзі хутка зразумеюць свае памылкі і далучацца да кампаніі байкоту".

Намеснік старшыні БНФ аб'явіў таксама пра выпрацоўку працэдуры так званых папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў (па аналагу ЗША) з мэтай вылучэння на выбарах прэзідэнта ў 2001 годзе адзінага кандыдата.

Былі абнародаваныя даныя сацыялагічных даследаванняў лабараторыі НІСЭПД, згодна з якімі зараз, яшчэ да пачатку кампаніі "актыўны байкот" толькі 48 працэнтаў жыхароў Беларусі гатовыя прыняць удзел у выбарах пры ўмове непрыезду міжнародных назіральнікаў і непрызнання выбараў светам. Таксама быў адзначаны значны рост пратэстнага электарата Па словах выступоўцаў, акцыя "актыўны байкот" не можа не атрымацца, а "выбары і псеўдапарламент не будуць прызнаныя".

*Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»*

# Твая палатка – ты і галасуй

**На прэс-канферэнцыі 18 жніўня па выніках рэгістрацыі групаў падтрымкі кандыдатаў у "палатку" старшыня Цэнтрвыбаркама сп-ня Ярмошына паведаміла, што байкот выбараў не забаронены дзеючым законам аб выбарах.**

Ну дык і правільна! Гэта мусіць адзіная норма ў гэтым законе, якая прыведзеная ў суадносіны з рэаліямі жыцця.

Падумайце – усё нашае жыццё суцэльны **байкот**! Ніхто не скача на амбразуры, не будуе барыкады, не плюе начальству ў морду і нават не кідае шапку аб зямлю, што б не здарылася. Прычым гэта назіраецца ва ўсім грамадстве. Мацярыць, напрыклад, старшыня калгаса трактарыста – а той толькі пасміхаецца. Ці калі сам Лукашэнка тыкае старшыні аблвыканкама, а той яму — "А дайце мне Аляксандр Грігор'евіч камбайн за дзвесце тысячаў даляраў", а сам хвігу ў кішэні трымае, думае: ну паскачы, пашукай грошай, а то тут растыкаўся... авёс бачыш яму не падабаецца...

І што б не рабілася – ціснуць падаткамі, дубасяць міліцыяй на вуліцах, не плацяць заробкі – хвігу ў кішэню – і — **байкот** . Гэта мусіць ментальнасць у нас такая. Прыродны стан народа. Па – праўдзе сарамлівыя мы нейкія: ну цяжка сказаць дурню ў вочы, што ён дурань, ці тое самае хаму і падлюку. Заўсёды азіраемся, не спальваем за сабой мастоў: абы не было вайны, а атрымоўваецца – **байкот**, бо разумны чалавек ніколі не будзе рабіць добра справу, калі яна не падабаецца, ці калі лічыць, што яго дураць, тым болей калі зневажаюць. Так яно і ідзе што на заводзе, што ў міністэрстве, што ў вертыкалі. Соўваемся сабе паціху ад плота да плота: можа хто самагонкі дасць, можа сам што знойдзеш. Па сутнасці, усе беларусы зараз апазіцыя, пераважная большасць, працэнтаў гэтак дзевяноста восем, не меней (два працэнты пакінем на дурных і апошніх алкаголікаў), бо абсалютна ўсе незадаволеныя, нават тыя, хто падстаўляе плячо, ці трымае парасончык над галавой "усенароднаабранага". Розніца толькі ў тым, што адны прыстроены на цёплае месца, другія хочуць прыстроіцца, а трэція проста жывуць – і ўсе — **байкатуюць**. Праўда, усе хочуць жыць лепей.

Дык вось, частка апазіцыянераў (беларусаў значыць), якія палічылі сябе барацьбітамі за народнае шчасце (гавораць, што сярод іх ёсць нават правадыр сацыял-дэмакратаў), пахадзіўшы трохі па вуліцах, пагалёкаўшы на мітынгах, атрымаўшы міліцэйскай дубінкі ў плечы за дурасць (бо нармальныя беларусы трымаюць хвігу ў кішэні і **байкатуюць**), вырашылі пашукаць лепшай долі ў "палатцы" пад шапкай у Лукашэнкі. Нябось думаюць: "Вось выйду я перад народам, пачну яму расказваць, як ён кепска жыве (а мы самі ведаем , што кепска, але нават у ладкі будзем пляскаць, праўда, адной рукой пляскаць, а другую ў кішэні з хвігай трымаць) абяруць мяне, сяду я ў палатцы, а потым як устану ды як скажу: "Аляксандр Грігор'евіч, ізвініце вы тут не правы, ну не тут, а вот немножка збоку неправы ну савсем чуць-чуць" — і мяне пакажуць па цілівізару!!! І мяне ўвідзят людзі і ўзнают какой я барэц за народнае шчасьцьце, і можэт дажа абяруць у наступную восень прэзідэнтам".



Што тут паднялося. Газеты залемантавалі: Раскол у апазіцыі!. Канец марам аб шчаслівай будучыні!. Рэжым перамог! Нават паважаная БДГ піша: "Вілы для ... апазіцыі". Годзе братцы. Якія вілы. Усе дзесяць мільёнаў беларусаў у апазіцыі і **байкатуюць,** а вы – вілы. Нават матка самой аўтаркі, як тая піша ў газеце, не адчыняе дзверы групам падтрымкі кандыдатам у "палатку" – **байкатуе,** а вы – раскол. Важак ліберал- дэмакратаў і той уцяміў, што з гэтымі выбарамі нічога не атрымаецца, і бразнуўшы дзвярыма сышоў з цэнтарвыбаркама, зразумеў, што супраць народнага **байкоту** не папрэш.

Узяць таго ж самага Лукашэнку, дык і той за **байкот**. Лічыце, што яму няма каму хвігу ў кішэні паказваць? Ёсць! Ён яе усяму свету паказвае і таксама хоча жыць лепей, але не можа і не ўмее. Такі ў яго характар. Вы думаеце дарма ён кідаўся ў абдымкі да вядомага аматара кабет на саміце АБСЕ ў Стамбуле ў тым годзе? Не! Хвігу ў кішэні трымаў і **байкатаваў**: не выйдзе па–вашаму, спадары капіталісты, мы ісцінныя славяне народ асобы! І для апазіцыі, гэта значыць для беларусаў у яго хвіга ў кішэні: ну прыйдзіце, абярыце маю "палатку", можа мяне ў свеце прызнаюць, а я з вамі потым сам разбяруся. А хто ў гэтую "палатку" ідзе, яму без розніцы — не дасць ён ім цілівізара – і ўсё тут, нездарма ж галоўным цілівізаршчыкам заядлага камуніста Чыкіна паставіў!

Нармальнаму чалавеку з пажыццёвай хвігай у кішэні і звычкай да **байкоту** гэтыя выбары наогул незразумелыя. Што выбіраць? Каго? Сядзелі пад шапкай у Лукашэнкі чатыры гады, ніхто іх не чуў і не бачыў, якія яны: тоўстыя ці сівыя – увесь час толькі горшала. Раней за мільён можна было завод пабудаваць, а зараз і бутэльку гарэлкі не купіш. Людзі, кажуць, прападаць сталі.

Караццей, не пайду я на выбары, **прабайкатую,** ды і законам гэта дазволена. Напісаў так і ўявіў сабе такую карціну. Зрабілі ўсе так, як я. Пазірае Лукашэнка ў акно: ніхто не ідзе на выбары. Ніхто ў кабінках для галасавання не шамаціць, урны пустыя, як шаманскі бубен. Выскоквае ён са сваёй Карламарксатрыццацьвосем і да нас. А мы на лаўках сядзім, семкі паплёўваем, півам запіваем, кепка на вочы, цыгарэтай папыхваем. Гаспада, спадары, таварышчы! — крычыць, — бяжыце скарэй галасуйце за дэпутатаў маёй палаткі, ато врэмя уходзіт! А мы: — Твая палатка — ты і галасуй, за сваю яшчэ б падумалі, а так – во, піва пап'ем, у нас – **байкот!**

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# “Злокачественное словоблудие”

Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіла паведамленне, у якім пераказваецца змест допісу Аляксандра Лукашэнкі на адрас Генеральнага сакратара Савета Еўрапейскага Саюза, Высокага прадстаўніка па агульнай знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Хаўера Саланы. Але намнога раней за прэс-службу МЗС рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА атрымала з іншых крыніцаў не пераказ, а поўны тэкст допісу.

Пра што ж піша верны сябар і аднадумец Слабадана Мілошавіча свайму былому заклятаму непрыяцелю – нядаўняму Генеральнаму сакратару NATO, а зараз найбольш цвёрдаму ў дачыненні да дыктатарскіх рэжымаў еўрапейскаму палітыку? Усё пра тое ж. Аляксандр Лукашэнка стараецца прадаць Еўропе СВАЕ выбары: дэкларуе СВАЁ палітычнае крэда, абяцае пашырыць функцыі СВАЁЙ кішэннай “палаты”, расхвальвае СВОЙ Выбарчы кодэкс, ды ўстаўляе ўсюды СВАЮ звыклую няпраўду. Дакумент, напісаны на трох старонках, пакідае адчуванне рэдкага па крывадушнасці ліста. У гэтым сэнсе яго можна лічыць гістарычным. Тэкст допісу дакладна зафіксаваў дэфіцыт сумлення ў яго складальнікаў. Хаваючыся за станоўчыя палітычныя тэрміны аўтары (у каторы ўжо раз!) стараюцца ўвесці ў зман міжнародную супольнасць. Замест выканання чатырох канкрэтных умоваў, на якіх дэмакратычная апазіцыя пагадзілася б удзельнічаць у выбарах, Аляксандр Лукашэнка абяцае ўвесці прадстаўнікоў палітычных партыяў у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі і даць магчымасць кандыдатам у дэпутаты выступіць па тэлебачанні.

З гэтага дакумента мы можам даведацца, што ў нашай краіне існуюць усе неабходныя ўмовы для дэмакратычных выбараў, што ў апазіцыі да Лукашэнкі знаходзіцца меншасць нашага грамадства, што ў новым (?) Выбарчым кодэксе ўлічаныя “многие предложения ОБСЕ, Евросоюза, Совета Европы”, што “лидеры оппозиции уже в течение многих месяцев регулярно появляются в государственном эфире, в том числе и прямом” і г.д. А вось як, напрыклад, вырашаецца Аляксандрам Лукашэнкам самая вострая праблема – праблема адсутнасці ўладных і заканадаўчых паўнамоцтваў у членаў так званай палаты прадстаўнікоў: **“Расширение функций парламента является неотъемлемой частью развивающихся в Беларуси общественных процессов. Это будет одно из направлений работы нового Парламента”**. (Мусіць, пачнуць пасылаць дэпутатаў, як студэнтаў, на сельгасработы? Гэта ж таксама можна назваць пашырэннем функцыяў). На час падрыхтоўкі і правядзення выбараў Лукашэнка абяцае **“не ухудшать условия деятельности общественных организаций, политических партий и групп, включая оппозиционные, свободных профсоюзов и независимых СМИ”**. (Вялікі дзякуй, што хоць на гэты час пакінеце людзей у спакоі.) А вось вытрымка, якую трэба прывесці поўнасцю, як найбольш характэрную : **“Исходя из соображений доброй воли, государство обеспечит всем желающим юридическую возможность участия в предстоящих выборах”**. (А я думаў, што такую магчымасць забяспечвае не чые-небудзь “соображения доброй воли”, а Закон. У прыватнасці, Канстытуцыя).

Карацей кажучы, ў расійскай мове ёсць дакладны выраз, які найлепшым чынам характарызуе і гэты дакумент, і такую з'яву, якую нам яскрава дэманструе сённяшняя ўлада: “злокачественное словоблудие”. Менавіта пад такой рубрыкай гэты ліст і захаваецца ў нашай памяці.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Александр Григорьевич сердится

**Правоохранительные органы республики не угодили Александру Лукашенко. В четверг, встречаясь с силовиками, он подверг резкой критике их деятельность. Очевидцы рассказывают, что А.Лукашенко несколько раз срывался до откровенных ругательств.**

Нельзя себя убаюкивать в то время, когда преступный мир окутал соседние государства, заявил он. Особенно Александра Григорьевича возмутил тот факт, что по работе гаишников и следователей судят и о его деятельности.

Больше всего влетело сотрудникам ГАИ. Очевидно, Лукашенко несколько раз тормознули во время его частных поездок, когда президент самолично водит автомобиль без мигалок. Не исключено, что какой-то гаишник, не узнав всенародноизбранного, потребовал у усатого водителя в темных очках штраф за превышение скорости и отсутствие разрешения на тонировку ветрового стекла. Иначе откуда главе государства знать, что сотрудники ГАИ занимаются вымогательством, вместо того, что бы помогать водителям на дорогах?

Досталось и Михаилу Удовикову, который лично в ответе за последние заказные убийства в стране. Лукашенко также возмутил неуклонный рост преступлений, совершаемых сотрудниками МВД и других правоохранительных органов.

Обратив внимание на факты взяточничества в структурах приграничья, о таможне с точки зрения коррупции Лукашенко вообще промолчал. Видимо, слов не хватило.

КГБ оказался виновен в том, что до сих пор не сидят те, кто должен сидеть в тюрьме. Громкие дела находятся под контролем президента, что совершенно не влияет на динамизм их раскрытия.

Лукашенко высказал недоумение, что правоохранительные органы не задержали и не предъявляют никаких претензий к бывшему директору Бобруйского гидролизного завода. Семнадцать работников завода были осуждены за хищения с данного предприятия спирта, однако руководитель завода оказался вне поля зрения правоохранительных органов, удивился он.

Еще большее удивление главы государства вызвала безучастность правоохранительных органов по отношению к Тамаре Винниковой. Сбежавшая из-под бдительной охраны президентских сторожевых псов банкирша объявилась в Лондоне, журналисты ее находят, интервью берут, а следователь через Интерпол потребовать ее выдачи не может.

Силовикам приказано начхать на призывы западных правозащитных организаций прекратить преследование политических деятелей, и велено доводить все дела до конца, не интересуясь политикой. И это после уверений А.Лукашенко в адрес Европы, что в республике предпринимаются шаги по улучшению климата доверия в стране.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

# Военная тайна российских адмиралов

**В понедельник утром норвежским водолазам удалось открыть верхнюю крышку аварийно-спасательного люка девятого отсека подлодки "Курск". В шлюзовой камере никто не обнаружен. От использования английской мини-подлодки LR-5 решено отказаться. Еще в субботу командование Северного флота признало, что экипаж подлодки был обречен. Однако президент Путин заявил, что спасательные работы будут продолжаться до последнего момента.**

В субботу, когда начальник штаба Северного флота Михаил Моцак наконец-то объявил о том, что моряки "Курска" еще в понедельник подавали сигналы о поступлении в отсеки воды, стало ясно — экипаж был обречен. И в первую очередь командованием флота, которое прекрасно знало, насколько "травмы" прочного корпуса несовместимы с жизнью подводников. Отсюда и мрачный, погребальный тон, вопреки всем морским традициям, взятый главкомом ВМФ Владимиром Куроедовым в самом начале спасательной операции. И однообразность попыток состыковаться с комингс-площадкой кормового отсека — ни одного альтернативного варианта, ни одного шага в сторону от шаблона. И, наконец, отказ от помощи иностранцев.

Между тем, лишь за несколько часов работы на грунте англичане и норвежцы полностью обследовали весь корпус, сделали качественную видеосъемку и сумели найти на комингс-площадке аварийно-спасательного люка борозду, которая делала бесполезным использование "колокола". Наконец, им удалось "отдать", то есть отвинтить вентиль кормового люка, и к утру в понедельник верхняя крышка была открыта. Если бы норвежцы пришли сюда в прошлый понедельник...



*Капітан падлодкі "Курск" 45-гадовы Генадзь Ляхін*

По предположениям водолазов, внутри капсулы аварийно-спасательного люка мог находиться человек — гонец последней надежды, пытавшийся выйти на поверхность в легко-водолазном костюме. Однако в шлюзовой камере 9-го отсека норвежцы никого не обнаружили. Сумей кто-то из моряков выбраться на поверхность — и спасательная операция, вероятно, пошла бы по другому сценарию.

**Бомбометание по своим**

Российские специалисты не только оказались беспомощными перед глубиной 100 метров, но и до сих пор гадают на кофейной гуще — как и почему атомоход оказался на дне. Версия вице-премьера Ильи Клебанова: столкновение с "подводным предметом, не менее 8 тысяч тонн водоизмещением". Столкновение, забор воды в пробоину, взрыв аккумуляторной батареи с одновременной детонацией боезарядов в торпедах.

С кем мог столкнуться "Антей", подводный исполин водоизмещением 24 тысячи тонн? Причем так, что сам оказался на дне, а второго "участника происшествия" и след простыл? Зачем английской или американской подлодке в случае столкновения с российской субмариной в нейтральных водах отмалчиваться? Нет тут никаких резонов — ни политических, ни военных. Такие ЧП на подводных перекрестках случались и раньше. И никому в голову не приходило наводить тень на плетень. То есть вариант, конечно, может иметь место, но концы с концами тут не сходятся.

Идеально подходящей может быть такая версия — попадание российской лодки в зону глубинного бомбометания российских же кораблей. По плану учений такое боевое упражнение корабли Северного флота проводили во второй половине дня в пятницу, 11 августа. По неофициальным данным, которыми располагают *Vesti.Ru*, последний раз сеанс связи у "Курска" был в 16.00 в пятницу. Хватились подлодки лишь после полуночи, когда она не вышла на связь согласно установленному режиму ЗАС (засекреченная автоматическая связь). Координаты установили в субботу, ближе к 8 утра. Таким образом, вполне вероятно, что подводный корабль мог оказаться в зоне бомбометания.

Если это так, то разрыв, а тем более прямое попадание глубинной бомбы в субмарину могло значительно покорежить прочный корпус, вызвать механические повреждения внутри корабля. Командир успел отдать команды "Боцман, всплывать!" и "Поднять выдвижные устройства!", после чего сработала аварийная защита обоих реакторов и лодка потеряла ход. Аварийная энергетика по каким-то причинам отказала. Удар о каменистое плато на глубине 80 метров вызвал новые разрушения, взрыв аккумуляторной батареи, детонацию боеприпасов. После чего лодка скатывается по наклонной плоскости еще на тридцать метров.



*Атомная субмарина до катастрофы*



Гидроакустики надводных кораблей вполне могли прошляпить подводную цель или неверно ее классифицировать. А "Курск", в свою очередь, мог "залететь" в опасный район, увлекшись дуэлью с иностранной субмариной. Кстати, по некоторым данным, след от неизвестного подводного корабля был обнаружен в 500 метрах от падения К-141. Возможно, досталось и "супостату" (военно-морской сленг). Но он сумел придти в себя и добраться до базы.

В силе остаются и другие версии. В числе наиболее реальных — взрыв ходовой части торпеды в момент, когда она уже подавалась из торпедного аппарата. Правда, так никто и не может сказать, какой должна была быть цепочка мини-катастроф, чтобы все закончилось разрушением минимум двух носовых отсеков. Конструкторы божатся, что прочный корпус лодки, ее внутренние переборки могли выдержать любой мощнейший взрыв,

какой только мог случиться в торпедном отсеке.

Между тем, на мысль о бомбометании по своим наводит и упорно выдвигаемая командованием Северного флота версия о столкновении с миной времен Второй мировой войны. Мощности этого боезаряда не столь велики, чтобы нанести такие сокрушительные увечья современному атомоходу, однако, если версию принять на веру, то оплошность самих военных можно отвергнуть как гнусный вымысел.

**Спасали секреты, а не людей**

Что может статься с самой лодкой? После фиаско, которое флот потерпел при спасении экипажа, трудно предположить, что современные технические и интеллектуальные возможности ВМФ "вытянут" корабль хотя бы на мелководье, где с ним уже могли бы работать легководолазы. И оставлять без присмотра атомоход, нашпигованный современнейшими ракетными системами "Гранит", которые вызывают живейший интерес у Запада, тоже никак нельзя. Постоянно держать здесь корабли — накладно. Значит, остается одно — взорвать подводную лодку. На том и концы в воду. Но взорвать — значит обречь себя на бесконечные объяснения с международной общественностью по поводу радиационного заражения акватории Баренцева моря. Ведь никто не поручится, что в этом случае заглушенные реакторы и дальше будут отличаться примерным поведением. В общем, и здесь — тупик. Выхода из которого пока никто не видит. Потому что нет потребных понтонов, нет специальных спасательных механизмов, нет нужных судов обеспечения. Нынешняя Россия не готова к решению этой технической задачи. Как она оказалась не готова, морально прежде всего, спасать людей.

Ведь не допускали адмиралы иностранных спасателей к "Курску", скорее всего, из соображений секретности. Как так, найсовременнейший атомоход, и вдруг — выложи его чертежи, ТТД (тактико-технические данные) в руки натовцев. Более того — разреши проникнуть внутрь святая святых — в отсеки суперсекретного "Антея".

Военную тайну нашим адмиралам, может быть, сохранить и удастся. А вот честь — никогда.

***По материалам сайта «Наша Свабода»***

На борце "Курска" былі і два беларусы. Як паведаміла прадстаўніца консульскай службы Беларусі ў Мурманску Галіна Снягоўская, гэта капітан другога рангу Сяргей Дудко і капітан трэцяга рангу Аляксандр Садкоў.

Як удалося высвятліць нашаму карэспандэнту, Сяргею Дудко 31 год, ён займае пасаду намесніка камандзіра "Курска", ягоная маці жыве ў Пінску, а брат вучыцца ў адным з Санкт-Пецярбургскіх ВНУ. Калі маці С.Дудко даведалася пра трагедыю "Курска", то трапіла ў шпіталь з сардэчным прыступам.



Замежная прэса вельмі крытычна ацэньвае дзейнасць расійскіх уладаў у гэтай сітуацыі.

Брытанская *Guardian* мяркуе, што адмова Крамля ад замежнай дапамогі красамоўна пацвярджае "гардыню" Расіі, а *Telegraph* папярэджвае, што "самалюбства расійскіх уладаў можа каштаваць экіпажу жыццяў".

Германская *Tagesspiegel* піша: "Свет знаёміцца з Расіяй Уладзіміра Пуціна, і гэтае знаёмства вельмі падобнае да новай сустрэчы з Савецкім Саюзам. Тая ж скрытнасць, тыя ж імперскія амбіцыі. Спачатку рускія спрабавалі замаўчаць дакладную дату аварыі, потым Масква марудзіла з прыняццем дапамогі... Выпадак з "Курскам" пацвярджае, што "Партнёрства ў імя міру" ў выкананні расійскага боку вартае толькі вельмі негатыўнай ацэнкі".

*The Times* выказала меркаванне, што трагедыя магла адбыцца з-за кепскай вывучкі экіпажа. Аўтары пішуць пра парочнасць практыкі, калі вучэнні праводзяцца з вялікім размахам, але рэдка, і прыводзяць словы аднаго неназванага падводніка: "Калі падводныя лодкі рэдка выходзяць у мора, іхнія экіпажы ржавеюць хутчэй, чым метал".




**✍ Пасажыры міжгародніх і прыгарадных аўтобусных маршрутаў з 18 жніўня плацяць за квіткі больш. Кошт праезду гэтымі рэйсамі згодна пастанове Міністэрства транспарта і камунікацыяў стаў даражэй на 18%.**

Зараз 1 кіламэтар праезду прагарадным рэгулярным рэйсам абыдзецца пасажыру ў 6,3 - 6,8 рублі ў залежнасьці ад кшталту аўтобуса. Гэты тарыф на міжгародніх аўтобусных маршрутах складзе адпаведна 9,2 – 10,5 рублі. Акрамя таго, стала больш на 8 рублёў нацэнка пры папярэднім продажы і браніраваньні квіткоў. Пасьля падаражаньня яна яна складае 30 рублёў з аднаго пасажыра.

Па новым тарыфе будзе аплочвацца і карыстаньне паслугамі таксі – кошт 1 кіламетра прабегу ўзрос з 180 да 210 рублёў.

**✍ 22 жніўня ў Беларусі зацьверджаны новыя аптовыя і рознічныя цэны на нафтапрадукты, якія адгружаюцца канцэрнам «Белнафтахім» і рэалізуюцца прадпрыемствамі сыстэмы канцэрна праз аўтазаправачныя станцыі.**

Згодна з загадам кіраўніцтва канцэрна «Белнафтахім» ад 21 жніўня № 351, цэны на нафтапрадукты павышаюцца ў сярэднім на 5%. Напрыклад, кошт рэалізацыі аўтабензіна А-76 праз АЗС прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у сыстэму канцэрна, устаноўлены за літр, з падатакам з продажу і ПДВ уключаючна, 299 рублёў, А-92 — 393 рублі, АІ-95 — 463 рублі, дызельнага паліва — 282 рублі. Кошт рэалізацыі праз АЗС на аўтамагістралі «Берасьце — Масква» склала адпаведна: А-76 — 305 рублёў, АІ-92 — 401 рубель, АІ-95 — 472 рублі.

Апошні раз цэны на нафтапрадукты ў Беларусі павышаліся 2 жніўня.

**✍ Памочнік прэзыдэнта Беларусі Сяргей Посахаў ня бачыць нічога дрэннага ў тым, што беларускія ўлады хочуць правесьці ў парлчмэнт сваіх прыхільнікаў.** Пра гэта ён заявіў 22 жніўня падчас прайшоўшага ў Менску «круглага стала». Усялякая ўлада, паводле ягонных словаў, робіць усё дзеля таго, каб правесьці ў парлямэнт сваіх кандыдатаў і не дапусціць у яго прадстаўнікоў апазыцыі.




**Новы кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Віктар Чыкін быў прадстаўлены супрацоўнікам БТ на нарадзе 24 жніўня з Удзелам Лукашэнкі.**

Старшыня беларускай камуністычнай партыі Чыкін нечакана для тэлевізійшчыкаў быў прызначаны на пасаду кіраўніка БТ яшчэ ў сярэдзіне ліпеня. І вось Лукашэнка прыехаў, каб асабіста патлумачыць гэты свой кадравы крок. Аказваецца, Чыкін стаў галоўным на тэлебачаньні таму, што Лукашэнка доўга яго ведае "как человека твердого, стойкого, с бойцовскими качествами".

На нарадзе Лукашэнка зноў засяродзіў увагу, што тэлебачаньне ён ня мае намеру некаму аддаваць. БТ будзе заставацца дзяржаўным, бо "идеология не подлежит приватизации". Па яго ж словах, 2-гі беларускі канал, што хутка чакаецца, будзе створаны на базе паўпрыватнатнай кампаніі «8 канал», якая стане таксама цалкам дзяржаўнай.

**Па стану на 21 жніўня ў Беларусі збожжавыя і зернебабовыя ўбраны з 72,8 % плошчаў, якія падлягаюць уборцы. Намалочана 4 мільёны 181 тысяча тон збожжа пры сярэдняй ураджайнасьці 24,1 цэнтнэра з гектара.**

Такія дадзеныя БелаПАН паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі.

Найбольшая ураджайнасьць зафіксаваная ў Гарадзенскай (32,8 ц/га) і Берасьцейскай (25,2 ц/га) абласцях, найменьшая — у Гомельскай (20,2 ц/га) і Магілеўскай (21,6 ц/га). У Менскай вобласьці сярэдняя ўраджайнасьць складае 24,1 ц/га.

Па дадзеных Мінсельгасхарча, 21 жніўня на палях працавала 8.879 збожжаўборачных камбайнаў, ці 48% ад наяўнай колькасьці.

Калі параўноўваць тэмпы ўборачнай зь леташнімі, дык на 21 жніўня 1999 года ў рэспубліцы ўжо было ўбрана 95% збожжавых і зернебабовых. Спэцыялісты Мінсельгасхарча разьлічваюць, што ў цэлым сёлетні ўраджай складзе 5,5 — 5,7 мільёнаў тон, што прыкладна на 2 мільёны тон больш, чым летась.

Как сообщила газета "Советская Белоруссия", российскую армию, приблизительно с 1998 года, кормили собачьими мясными консервами, получая прибыль на каждой банке до 1 доллара США. Сейчас эту аферу вроде бы вскрыли компетентные органы. (По-видимому, аферисты не поделились с армейцами и те их "заложили"). Будет суд.

Газета сладко умиляется, описывая пайки наших белорусских воинов. Дескать, у нас такое невозможно. Действительно, невозможно. Потому что, если наш воин и вынужден есть собачьи обеды, то об этом никто не узнает. Не тот уровень гласности в наших несчастных войсках. Вызывают сомнения и расчеты "Советской Б.", которая утверждает, что за 996 рублей в сутки нашему солдатику дают 200 граммов мяса, 120 граммов рыбы, 30 граммов масла, 300 граммов овощей (не считая хлеба, круп, макарон, жира и т. п.). Думаю, что белорусские пенсионеры сильно поправят сладкую газету.

Но, тем не менее, обязательно придет время, когда мы много интересного узнаем и о нынешнем режиме, и о качестве питания солдат Белорусской Армии, и о многих аферах, которые имеют свойство всегда всплывать наружу...

# Инфляцию ждали и она пришла

**В последние дни на черном рынке белорусский рубль начал сдавать свои позиции по отношению к доллару. В результате вновь возникла значительная разница между курсом в обменных пунктах и у валютчиков. Теперь можно прогнозировать, что эта разница в ближайшее время будет расти.**

Уже сегодня курс белорусского рубля по отношению к доллару в обменных пунктах составляет 980-999 рублей за доллар, в то время как на черном рынке доллар перешагнул тысячную отметку. Максимальный курс составляет 1040 рублей за доллар. В Национальном банке объяснили, что ситуация на черном рынке хоть и не имеет отношения к главному банку, но его специалистами все же отслеживается.

Руководитель информационного управления Нацбанка Анатолий Дроздов считает, что резкое падение курса белорусского рубля на черном рынке можно объяснить спекуляциями.

Впрочем, существует и другое объяснение, которое независимым специалистам кажется более вероятным. Изменение курса рубля по отношению к доллару на черном рынке по времени совпало с известным совещанием президента с правительством, которое состоялось 15 августа. Как известно, незадолго до совещания Александр Лукашенко открыл для себя, что в Беларуси несвоевременно выплачиваются зарплаты. И правительству на исправление ситуации президент выделил всего две недели. Проблема задолженности должна быть решена к 1-2 сентября. В противном случае президент пригрозил оставить себя, правительство и банкиров без зарплаты. В поисках средств руководство страны прибегло к испытанному методу. Считается, что деньги всегда есть в банках, там их правительство и взяло - на погашение задолженности по зарплате банки выдали значительные кредиты. По мнению Анатолия Дроздова, прямой связи между выдачей кредитов и падением курса белорусского рубля нет. Однако, суммы, выданные в виде кредита правительству, банкам как-то придется восполнить, что, конечно же, не сможет не отразиться на экономической ситуации.

Наличие инфляционных ожиданий сегодня вполне объяснимо. Для нового витка инфляции существует масса причин. Первая из них - ежегодная головная боль правительства, уборочная кампания.

Потом будут и другие - с октября должна повыситься минимальная зарплата. Следует учесть и предвыборные расходы. Ведь кроме затрат непосредственно на выборы, нужны еще и деньги на задабривание избирателей. И, скорее всего, процесс задабривания, который уже начался накануне парламентских выборов, плавно перейдет в подготовку к выборам президентским.

В интервью *«БДГ»* Анатолий Дроздов сообщил, что незапланированной эмиссии в последнее время не было. Что касается планируемой в ближайшее будущее эмиссии, то он заявил, что не может отвечать на этот вопрос. Впрочем, Дроздов сказал, что эмиссия будет сделана в рамках прогноза на год. Известно, что в прошедшем году ближе к осени была сделана незапланированная эмиссия. Об этом удалось узнать только из-за неосторожности одного из представителей правительства.

***По материалам «БДГ»***



# З пачынам!

**Перамогай з лікам 1:0 у гульні супраць дастаткова моцнай каманды Латвіі завяршылася першая гульня беларускай футбольнай зборнай пад кіраўніцтвам новага знакамітага трэнера Эдуарда Малафеева.**

Матч праходзіў у Рызе, што яшчэ больш падкрэслівае знакавасць падзеі, бо перамогі на чужым полі цэняцца ўдвая. Гол у беларусаў забіў нападаючы мазырскай "Славіі" Раман Васілюк.



І хаця гульня насіла таварыскі характар, можна прыгадаць, што беларусы не выйгравалі ні ў кога ўжо вельмі даўно, гады тры, і цяпер любы поспех на вагу золата.

Тым больш цяпер з падвоеным аптымізмам можна чакаць гульню нашай нацыянальнай каманды 2 верасня на стадыёне "Дынама" супраць каманды Уэльса ў першым адборачным матчы да чэмпіянату свету 2002 года. Акрамя Уэльса, у нашу адборачную групу таксама ўваходзяць моцныя каманды Украіны, Польшчы, Нарвегіі. Але ж трэнер нашай каманды Эдуард Малафееў зрабіў сенсацыйную заяву, паабяцаўшы вывесці беларускую зборную з групы пераможцай.

# Учеников ждёт 12-летнее образование

**В Общественном пресс-центре Дома прессы состоялось заседание "круглого стола", речь на котором шла о реформировании системы школьного образования в условиях информационного общества.**

Заместитель Министра образования Республики Беларусь Геннадий Дылян в своем выступлении перед журналистами заявил, что реформа направлена на решение одной из главных проблем нынешней школы - учебных перегрузок. По мнению специалистов, в ближайшее десятилетие белорусские учебные заведения захлестнет информационный поток. Чтобы быть готовыми к этому, нужно изменять систему школьного образования, делая ее максимально гибкой. "В середине 60-х годов перед школами поставили задачу: существенно повысить уровень получаемых знаний, увеличивая одновременно их количество. Учебные планы после тех преобразований стали предусматривать нагрузку 40-44 часа в неделю. Сегодня мы хотим посредством реформирования всей системы добиться снижения нагрузок до 34 часов в неделю", - сказал Геннадий Дылян. В качестве примера он привел опыт других государств: только в Китае и Японии, которая, кстати, также начала школьную реформу, дети учатся более 38 часов в неделю, остальные страны ограничивают учебу 34-36 часами. Изменения в белорусских школах будут проходить поэтапно на протяжении 10 лет (предположительное окончание реформы - 2012 год). Главным новшеством станет 12-летнее обучение, благодаря которому и снизятся нагрузки. Обязательными (базовыми) станут 10 лет обучения. Старшие классы постепенно перейдут на дифференцированную систему получения знаний - каждый ученик сможет выбрать необходимые ему для дальнейшего поступления предметы. Однако новые стандарты для работы 12-классных школ будут внедрены только через 4-5 лет, в самый разгар реформы, сообщает www.open.by.

***По материалам «БДГ»***

# "Зато у нас медицина... платная!"

Идя в поликлинику или ложась в больницу, не забудьте взять с собой кошелек. Министерство здравоохранения Беларуси приняло приказ №100А, который дал "зеленый свет" платному медицинскому обслуживанию в государственных поликлиниках и больницах. Таким образом, один из главных аргументов преимуществ социалистического строя, которым до последнего гордилось и белорусское руководство, – бесплатная медицина – больше не действует.

Первый удар на себя принял город Пинск, где местная администрация выделила на нужды здравоохранения всего 40% от необходимой суммы. В результате у местных медучреждений возникли огромные задолженности перед поставщиками медикаментов, оборудования, продуктов. И для того, чтобы иметь возможность оказывать бесплатную медицинскую помощь больным с экстренной патологией, льготникам и малоимущим, иного выхода, как ввести платное медицинское обслуживание для всех остальных, не оказалось.

Статья 45 Конституции Беларуси гласит: "Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на охрану здоровья, включая бесплатное лечение в государственных учреждениях здравоохранения". Однако, сказать по правде, наша медицина перестала быть бесплатной уже давно. Тот, кто ложился на стационарное лечение в больницу, прекрасно знает, что без купленных на свои деньги препаратов и шприцев там делать нечего. Больница может предоставить пациенту только самые дешевые препараты, а более дорогие больным приходится покупать самим. Тем не менее, необходимые процедуры были все-таки бесплатными. Теперь же в Пинске, к примеру, обследование желудка стоит 5.000 рублей, анализ крови – 1.000 рублей, мочи – 1.200 рублей.

В министерстве здравоохранения нам сообщили, что "бесплатными будут только те процедуры, которые прописал врач, а то, что человеку хочется просто себя обследовать на какое-нибудь заболевание, должно быть оплачено". Создается впечатление, что теперь даже необходимые для больного процедуры врачам выгоднее преподнести не как необходимые, а как рекомендуемые. И человек, если ему дорого здоровье, будет оплачивать то, что, по идее, должно быть предоставлено ему бесплатно.

***Па матэрыялах сайта «Наша Свабода»***

- Есть ли в Беларуси культ личности?
- Культ - есть, личности - нет.



Заседание Палаты Представителей. Депутаты сидят пригорюнившись, с грустными лицами. Спикер выступает с речью:
- Эх, а ведь лет через 30-40 Беларусь будет процветающей европейской державой...
- Жаль только, что нас уже не будет, - удручённо вздыхает один из политиков.
- Не «жаль», а «потому что»...



- Выезжаем на правительственную трассу, - шепчет шофёр генеральской машины, обращаясь к адъютанту генерала, сидящему рядом с ним.
- Выезжаем на правительственную трассу, - шепчет адъютант, повернувшись к генералу, сидящему за ним.
- Выезжаем на правительственную трассу, - шепчет генерал генеральше, сидящей рядом с ним.
- Почему шёпотом? - шепчет генеральша генералу.
- Почему шёпотом? - шепчет генерал адъютанту.
- Почему шёпотом? - шепчет адъютант шофёру.
- Вчера холодного пива выпил, - шепчет шофёр.



- На площади диссидент раздаёт листовки. Люди берут, отходят и обнаруживают, что у них в руках пустые листки. Некоторые снова подходят к раздающему листовки.
- Так ведь здесь ничего не написано!
- А чего писать зря? И так всё ясно!



- Сколько у вас недовольных режимом? - спросил Александр Григорьевич у представителя правительственной делегации Китая.
- Около десяти миллионов, ответил тот.
- У нас примерно столько же, - с гордостью ответил наш Президент.



- Почему жизнь в Беларуси так подорожала?
- Она перестала быть предметом первой необходимости.



Идёт бабка накануне выборов с полными сумками масла, молока, колбасы и других продовольственных товаров. Её спрашивают:
- Бабуль, зачем вам столько продуктов?
- Да скоро придут коммунисты к власти и опять в магазинах ничего не будет.
- А за кого голосовать будете?
- Да за них, касатиков...

Минск. Выступает президент на сессии Палаты Представителей:
- Уважаемые товарищи! Хочу сообщить вам о том, что Россия должна нам 2 миллиарда долларов.
Вопрос из зала:
- Позвольте узнать, за что?
- А что же вы думали, я с ними в теннис на фантики играл?



Спит Александр Григорьевич. И сниться ему Иосиф Виссарионович. Спрашивает Лукашенко Сталин:
- Могу ли я тебе как-нибудь помочь?
Александр Григорьевич говорит:
- Почему у нас всё плохо: сельское хозяйство разваливается, заводы стоят... и т.п. Что мне делать?
Сталин, не задумываясь, отвечает:
- Расстрелять всю оппозицию и покрасить стены Дома Правительства в голубой цвет.
- Но почему именно в голубой?
- Я так и предполагал, что дискуссия будет только по второму вопросу.



Руководитель областной «вертикали» обзванивает сельские районы:
- Ну как уборка урожая?
- Хреново...
- Да ты не приукрашивай, говори как есть...



- Какая разница между бедой и катастрофой?
- Допустим, козлик шёл по мостику, провалился и утонул. Это беда, но не катастрофа. А теперь, допустим, что упал и разбился самолёт с членами правительства на борту. Это катастрофа, но не беда.



Клинтон спросил у Бога, когда в США кончится безработица.
- Через десять лет, - ответил Бог.
- Жаль, что это будет уже не при мне, - сказал Клинтон.
Лукашенко спросил у Бога, когда в Беларуси наступит счастливая жизнь.
- Жаль, что это будет уже не при мне, - ответил Бог.



- Что будет после выполнения «зерновой программы Президента»?
- Перепись оставшегося населения.



Служащий пришёл на работу на пять минут раньше. Его посадили за шпионаж.
Другой служащий пришёл на работу на пять минут позже. Его посадили за саботаж.
Третий пришёл минута в минуту. Его посадили за антисоветскую агитацию: он носил швейцарские часы.

Социализм, капитализм и коммунизм договорились встретится. Социализм опоздал.
- Извините за опоздание, стоял в очереди за колбасой.
- А что такое очередь? - спросил капитализм.
- А что такое колбаса? - спросил коммунизм.



Клинтон угощает Ермошина черной икрой.
- Боже мой, как они от нас отстали, - подумал премьер. - Мы это ели тридцать лет назад!



Народно-демократический президент отказал школам в субсидиях, но распорядился выделить немалые средства для оборудования тюремных камер телевизорами. В доверительной беседе он объяснил министру просвещения:
- Вряд ли я проведу остаток своих дней в школе!



Областной вертикальщик отчитывается перед президентом:
- Урожай картофеля взяли без потерь. Ровно столько, сколько посадили. Количество клубней лично сам пересчитывал.
- Не врёшь? Чтобы не было приписок, я к тебе приеду и сам пересчитаю.



Уходя в отставку, Б.Н. Ельцин решил сделать широкий жест и отдал половину своих резиденций детям. А вторую половину - внукам...



Сын спрашивает отца:
- Папа! Правда, что сказки начинаются со слов: «Жили были старик со старухой...»
- Нет, сынок. Настоящие сказки начинаются со слов: «Если вы проголосуете за меня на выборах...»



Президент встречается с народом:
- Как живёте, товарищи?
- Хорошо живём, товарищ президент, - шутит народ.
- Будете жить ещё лучше, - шутит в ответ президент.



Сидят в навозной куче два червяка - папа и сын.
- Пап, а в яблоке хорошо жить? - спрашивает отца червяк-сын.
- Хорошо, сынок, - отвечает тот.
- А в апельсине?
- Ещё лучше...
- Так почему же мы с тобой живём в навозной куче?
- Понимаешь, сынок. Есть такое понятие - Родина.



Бюлетэнь «Грамадзянскі форум».
Заснавальнік:
АРМА «Грамадзянскі форум».

Выдаецца на беларускай і рускай мове. Перыядычнасць 2 разы ў месяц.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі. Выдадзена накладам 299 асобнікаў.
Выдадзена пры дабрачыннай падтрымцы Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша", Фонда "Альянс Каунтэрпарт", Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).
**Адрас для пошты: 231100, Ашмяны-3, а/я 63. E-mail: Civil_Forum@mailru.com**